# РУНЬ

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ І МАСТАЦТВА.

ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ ШТОТЫДЗЕНЬ.

Цана сшытку 5 м.
Падпіска
на 1 м-ц з перасылкай 20 м.
На 3 м-цы 60 м.

Год выд. I.
№ 2
9 мая
1920 году.

Рэдакцыя: Кашарская 10, кв 5. Адчынена 10—11 г раніцы.

Адміністрацыя: вул. Міцкевіча, „Беларускі Дом“. Адчынена 9—3 г. ўдзень.

Рукапісы назад не выдаюцца.

Аплата прынятых рукапісаў і рысункаў залежыць ад рэдакцыі.

## ВЁСКА.

*Веска, ты сэрцу майму дарагая,*
*Вечна ты ў думках у шчырых жывеш,*
*Вечна твой вобраз у вачох маіх зьяе;*
*Ў непакоі, спакой ты даеш.*
*Помню заўседы твае сенажаці,*
*Дзе сустракаўся ня раз мне ўсход,*
*Абзалаціўшы праменьнямі гаці;*
*Дзе за касьбой выліваў я свой пот.*

*Нівы абшарные з ядраным збожжам,*
*Як вас ніколі ня можна забыць—*
*Дзе, калі йдучы, дзяўчаты узДарожжам,*
*Песьняю хочуць сябе узьвесяліць.*
*Зыкаў ліюцца чароўные хвалі,*
*Зоркі гараць, зіхацяць у цішы:*
*Гукі-ж нясуцца, сьціхаючы ў далі,*
*Раны ўскрываючы чуткай душы.*

*Так і ляцеў-бы здаецца туды я,*
*Сэрцу даць вольна сваймў адпачыць,*
*Глянуць на тые малюнкі сьвятые,*
*Дзе ўсе жыцьцева, дзе кажа ўсе жыць!*

Я. Сявец



Першае Т-во Беларускай Драмы і Камэдыі.

# Лес шуміць.

**Сцэнічны абразок у 2-х актах з часоў паншчыны.**

*(Паводле „Палескай легэнды“ У. Короленкі).*

Інсцэнізацыя Ф. Аляхновіча.

*Асобы:*

Пан.
Раман, лясьнік.
Аксана, яго жонка.
Апанас Швыдкі, казак.
Дзед.
Багдан, стары слуга.
Слугі, панскіе даяжджачые.
Дзіця.

## АКТ I.

Лес. На апошнім пляне відаць хату Рамана.

### ЗЬЯВА I-я.

Дзед і Дзіцця *(сядзяць на прызьбе).*

Дзед *(прыслухоўваючыся да шуму лесу).* Лес шуміць... Бура йдзе... Ведаю... Ой-ой! Загудзе ўночы бура, хвоі будзе ламаць, з карэньнем вывaрачаці пачне. Загуляе лясны гаспадар...

Дзіцця. А скуль ты гэта ведаеш, дзеду?

Дзед. Эгэ, гэта я ведаю, добра ведаю, як дзераво гаворыць. Дзераво, хлопча, так-сама баіцца... Вось асіна, праклятае дзераво, ўсё нешта лапоча,—й ветру няма, а яна дрыжыць. Хвойка ў бары ў ясны дзень іграе-зьвініць, а як пачнецца вецер, яна загудзе й застогне. Гэта яшчэ нічога... А ты вось слухай цяпер. Я хоць вачыма дрэнна бачу, а вухам чую: дуб зашумеў, дуба ўжо чапае на палянцы... Гэта на буру!.. *(зашумело у лесе гальлё).* Эгэ, ці чуеш, хлопча?.. Я ўжо ведаю: крануло гэтак вось дуба, значыцца, гаспадар уночы пойдзе, ламаці будзе... Але не, не зламае! Дуб—дзераво моцнае, й не на гаспадарову навет сілу... вось як!

Дзіцця. А які-ж гаспадар, дзеду? То-ж вы самі кажаце: бура ломіць.

Дзед. Эгэ, я гэта ведаю... Я-ж яго бачыў вось як цябе цяпер, а то яшчэ й ляпей, бо ў мяне цяпер вочы старые, а тады былі маладые. Ой-ой, як яшчэ бачылі мае вочы з-замаладу!

Дзіцця. Як-жа ты яго бачыў, дзеду, скажы мне?

Дзед. А вось, усё роуна, як і цяпер: спачатку хвоя застогне ў бары. То зьвініць, а
то стагнаць пачне: о-ох, хо-о, о-хо-хо... і сьціх-
не, а пасьля йзноў, пасьля йзноў, ды часьцей,
ы жаласьлівей. Эгэ, таму, што шмат яе пако-
ць гаспадар уночы. А пасьля дуб загаворыць.
д вечар усё больш, а ўночы й пойдзе кру-
бегае па лесе, сьмяецца й плача, круціцца,
ўсё на дуба налягае, ўсё хочацца выр-
я раз увосені і паглядзеў у вакон-
чму гэта й недаспадобы: падбег да
па ём карчом хваёвым, немаль мне
е скалечыў, каб яму пуста было;
—адскочыў. Эгэ, хлопча, вось

А як-жа ён выглядае, дзеду?
А выглядае ён усё роўна як
то стаіць на балоце. Вельмі па-
як сухая амяла, што вырастае
да так-сама, а нос як здаравен-
каравая, быццам абрасла ліша-
нехарошы! А ня дай Божа ніводнаму хрышчонаму падобным быць да яго... Далібог! Я такі другі раз на балоце яго бачыў блізка... А ведаеш, хлопча, што я табе скажу?.. Ён, ведама, гаспадар лясны—паскуднае стварэньне, гэта праўда. Ну, але трэба толькі аб ім праўду сказаць: ён ліха ня робіць... Пажартаваць з чалавека пажартуе, а каб ліха рабіць, гэтага ня бывае...

Дзіцця. Дык як-жа, дзеду, ты сам казаў, што ён цябе хацеў ударыць карчом?

Дзед. Эгэ, хацеў такі. Дык гэта-ж ён раззлаваўся, нашто я на яго праз вакно пазіраю, вось яно як. А калі ў яго справы носа ня сунуць, дык і ён такому чалавеку нічога дрэннага ня зробіць. Вось ён які, лясун...

### ЗЬЯВА II-я.

Тые-ж і Раман *(уваходзіць).*

Раман *(да Дзеда).* Бацька, дзе Аксана? У хаце?

Дзед. Аксана пацягнулася ў лес па карову... Карова недзе ўцякла, можа й мядзьвядзі задушылі... Вось яно як. Толькі я тут з унукам. А ты-ж дзе быў?

Раман *(сядае).* Пры балоце... Качок шукаў... Уночы будзе бура. Лес шуміць...

Дзед. Будзе бура...

Раман. Чуў я ў лесе паляўнічы рог... Мабыць, наш пан палюе...

Дзед. Мабыць, і сюды заедзе?..

Раман. Ніколі ня мінае... А тут, як на бяду, няма Аксаны, каб пачысьціць сьвятліцу... Ну, дзякуй Богу, вось бачу йдзе Аксана і карову гоніць...

Дзед. А я з унукам пойдзем паглядзець на дарожку. Пойдзем, хлопча! *(Выходзяць).*

### ЗЬЯВА III-я.

Раман, пасьля Аксана.

Раман. *(Сядае, закурвае люльку).*

Аксана. *(Уваходзіць).*

Раман. Чаму дзіця каровы ня пільнуе? Сапраўды іншы раз можа карову задушыць мядзьведзь, калі яна адабьецца далёка ад хаты. Няхай хлапец пасьвіць карову.

Аксана. Куды яму! Ён жа яшчэ такі малы, кволы.

Раман. На пастуха ўжо не малы. Якраз.

Аксана. Ты дзіцяняці свайго зусім не шкадуеш. Бяз сэрца ты!

Раман. Дзіця мо' й не маё, я-ж такі й ня ведаю... Людзі кажуць...

Аксана. „Людзі кажуць“. Табе хто што скажа, таму ты й верыш. Свайго розуму ня маеш. Заўсёды толькі: „дзіця не маё, не маё“... *(Плача).*

Раман. Я-ж нічога гэткага не сказаў, а толькі скажу, што ня ведаю. Таму й ня ведаю, што раней ты не мая была й жыла ня ў лесе, а на сьвеце, паміж людзей. Дык як-жа ж мне ведаць? Цяпер вось ты ў лесе жывеш, вось і добра... А такі казала мне калісьці бабка Тадора, як я па яе на сяло хадзіў: „Нешта-ж у цябе, Раман, хутка дзяціна пасьпела.“ А я кажу бабе: „Як-жа ж мне такі ведаць, ці скора, ці ня скора?“ Ну, а ты ўсё-ж такі сьціхні галасіць, а то я засярдую, дык яшчэ мо каб цябе й не адластажыў... *(Чутно рог.)* Вось едзе ўжо пан! Ідзі лепш у хату і пачысьць сьвятліцу, бо пан як заўсёды, мабыць, да нас заедзе... *(Аксана выходзіць).*

ЗЬЯВА IV-я.

Раман, Пан, Багдан і слугі.

Пан (*да Рамана*). Ну, як здароў, Раман?

Раман. Дык я-ж дзякую, здароў! Што мне робіцца?

Пан. Ну й дзякуй Богу, што ты здароў. А дзе-ж твая жонка?

Раман. Ды дзе-ж жонцы быць? Жонка, вядома, ў хаце.

Пан. Ну, мы і ў хату зайдзем, а вы хлопцы, пакуль што, на траве дыван пасьцялеце ды прыгатуйце нам усяго, каб было выпіць ды закусіць. (*Ідуць у хату: Пан, Апанас і Раман бяз шапкі*).

ЗЬЯВА V-я.

Багдан і слугі.

(*Слугі прыносяць дыван, бутэлькі і закускі*).

Слуга. Калі-ж гэта Аксана Раману дасталася?

Багдан. Пан яму жонку даў. Паклікаў яго на сяло ды й кажа: „Вось што,“—кажа,—„Ромусь, жаніся!“ Гаворыць да пана Раман спачатку: „А на якога-ж гэта чорта мне жонка? Што мне ў лесе рабіці з бабаю, не хачу я, кажа, жаніцца.“ Ня прывык ён за дзяўчатамі валачыцца, вось што. „Хачу,—кажа пан,—каб ты ажаніўся, а на што, пра гэта сам ведаю. Бяры Аксану!“ „Не хачу я,—адказваў Раман,—ня трэба мне яе, хоць бы й Аксаны. Няхай з ёю чорт ажэніцца, а не я... Вось як!“ Прыказаў пан прынесьці бізуны, расьцягнулі Рамана, пан у яго пытаецца: „Будзеш, Раман, жаніцца?“—„Не,—кажа,—ня буду.“ „Сыпце-ж яму,—кажа пан,—колькі ўлезе.“ Засыпалі яму такі ня мала. Раман ужо нашто здаровы, а ўсё-ж такі яму абрыдла. „Пакіньце ўжо,—кажа,—годзі ўжо. Няхайжа яе ляпей чэрці схопяць, чымся мне за бабу гэтулькі пакуты цярпець. Давайце яе сюды, буду жаніцца!“ А прыехаў на той самы час з поля панскі даяжджачы, Апанас Швыдкі. Пачуў ён пра бяду Раманаву, гоп пану да ног! Упаў да ног, цалуе... „Чым—кажа,—вам, літасьцівы пане, чалавека мурдаваць, ляпей я з Аксанаю ажанюся, слова не скажу“... Сам, бачыце, захацеў ажаніцца... Вось як! Ну, Раман быў упешыўся, павесялеў. Падняўся на ногі і кажа: „Вось добра! Толькі каб табе, чалавечку, крыху раней прыехаць, а то ўхапілі мяне й ну, сыпаць“... А пан на гэта: „Сыпце яму дурню яшчэ... А ты, Апанас, вон пайшоў да чортавай маці. Цябе, кажа, на палудзень ня клікалі, дык сам за стол ня лезь, а то бачыш як Рамана частуюць? Каб як і табе таго самага ня было.“ А панскіе людзі ўмеюць спрытна бізунамі скуру спушчаць. Білі гэтак Рамана, білі, доўга ён трываў, а ўсё-ж такі пасьля плюнуў і кажа: „Годзі! Каб вам рукі паадсыхалі, чортава чэлядзь. Навучыў-жа вас чорт бізунамі працаваць. Ды я-ж вам ня сноп на таку, каб мяне вось гэтак малацілі. Калі так, дык вось-жа й ажанюся!“ А пан сабе сьмяецца. Вясёлы наш пан, далібог вясёлы!.. Гэтак вось Рамана й ажанілі. І вось прывёз ён сваю жонку тут да будкі... —Ну, дык бярэцеся за работу, ідзеце, цягнеце з воза бочкі: мёд ды гарэлку, а я пайду панскага каня паглядзець... (*Усе выходзяць*).

ЗЬЯВА VI-я.

Апанас, пасьля Раман.

Апанас (*выходзіць з бандурай з бакавой кулісы, глядзіць у вакно хаты, пасьля сядае на лаве*). Гэй, цярпі, казача да часу, пасьля атаманам будзеш!.. Сэрцо рвецца ў грудзёх, але цярпі казача! Хаця салодасьці ты ў жыцьці не спазнаў, хаця вораг зьдзекуецца з цябе,—гэй, цярпі, казача, пакуль час помсты ня прыйшоў! Сэрцо маё! супакойся, ня дрыжы, як закранутая рукой струна бандуры, сьцішся, цярпі, бо час тваей вялікай радасьці недалёка. (*Кратае рукамі струны бандуры*).

Раман. (*Выходзіць з хаты*).

Апанас (*глянуўшы на яго*). І чаму-ж Аксана гэтакаму дурню дасталася?!

Раман. А чым-жа ж гэта я, пане Апанасе, вам за дурня здаўся, скажэце мне?

Апанас. А тым, што ня зможаш сваю жонку ўсьцерагчы, тым і дурань...

Раман. А чаго-ж мне яе сьцерагчы? Тут, апрача зьвера, ніякага чорта й няма, вось хіба пан калі заедзе. Ад каго-ж мне жонку сьцерагчы? Глядзі ты, воражы казача, ты мяне не дразьні, а то я мо й за чуб пацягну.

Апанас. Ня злуй ты на мяне, братко, паслухай, што табе Апанас скажа: бачыў ты, як я ў пана калісьці каля ног качаўся, боты ў яго цалаваў, каб ён Аксану за мяне аддаў? Ну, Бог з табою, чалавеча... Цябе поп акруціў, гэтакі лёс мусі. Дык ня стрывае маё сэрцо, каб люты вораг ізноў над ёю і над табою пацяшаўся. Гэй-гэй! Ніхто таго ня ведае, што ў мяне на сэрцы... Дык лепей я яго й яе стрэльбаю замест пасьцелі пакладу ў сырую зямлю...

Раман (*паглядзеўшы з дзівам на Апанаса*). А ты, казача, часам з глузду ня зьехаў?

Апанас (*глянуўшы ўвакруг*). Слухай, Раман! Я ведаю добра, чаго пан езьдзіць сюды ў гэту пушчу... і ўсе добра ведаюць... толькі ты адзін гэтакі сьляпы ды дурны... Але годзе гэтага! Даўжэй я ўжо ня стрываю. Хутка ўжо будзе гэтаму канец!

Раман. Ой, Апанас, Апанас! Вось які на сьвеце народ благі ды хітры. А я-ж нічога гэтага, жывучы ў лесе, й ня ведаў. Эгэ, пане, пане! Ліха ты на сваю галаву надумаў...

Апанас. Ну, йдзі цяпер і не паказвай выгляду, найбольш за ўсё перад Багданом. Неразумны ты чалавек, а гэты панскі сабака хітры. Дык глядзі: панскай гарэлкі шмат ня пі, а калі адправіць цябе з даяжджачымі на балото, а сам захоча застацца, хай дзед вядзе іх да старога дуба й пакажа ім аб'ездную дарогу, а сам скажы, што наўпраст пойдзеш па лесе... ды чым барджэй, сюды вяртайся.

Раман. Добра. Зьбяруся на паляваньне, а стрэльбу ня шротам наб'ю і ня „лёткай“ на птушку, а добраю куляй на медзьвядзя...

ЗЬЯВА VII-я.

Тые-ж, Пан, пасьля Багдан і інш. слугі.

Пан (*выходзіць з хаты і крычыць у кулісу*). Ну, хлопцы. Давайце барджэй сюды ўсяго: мёду, гарэлкі. Будзем піць ды песьні пеяць! (*Уваходзяць слугі з бочкай, з кошыкам, з бутэлькамі, чаркамі і ежай. Пан сядае на дыване. Да Рамана, з сьмехам вусы пакручваючы*). Ну, што, Ромусь, ці добрую я табе жонку высватаў?

Раман. А што-ж? Баба, як баба, нічога.

Пан. А памятаеш, як ты носам круціў, а

я-ж для цябе шчасьця хацеў. Быў-ты адзін, як мядзьведзь у берлагу. і заехаць да цябе было ня весела... Ажно трэба было табе бізуноў усыпаць, каб ты сказаў: годзе—і ажаніўся. На вясельлі сваім хоця ня мог сядзець. затое мог добра паскакаці. Ха-ха ха. (*Налівае чарку і дае Раману; той выпівае. Дае другую,—тое самае, толькі вочы ў Рамана як у ваўка загараюцца ды вусам чорным пацягвае*). Вось-жа, сын варожы, як здорава гарэлку локча, а сам і вокам не маргне. Другі даўно ўжо заплакаў бы, а ён, глядзеце, людзі добрые, яшчэ ўсьмяхаецца!

Р а м а н. А з чаго-ж мне плакаць? Навет можа гэта ня добра было-б! Прыехаў да мяне міласьцівы пан вітаці, а я вось ды й пачаў-бы раўсьці, як баба. Дзякуй Богу, няма ад чаго мне яшчэ плакаць, вяхай ляпей мае ворагі плачуць!..

П а н. Значыцца, ты рад?

Р а м а н. А чаму-ж я магу быць ня рад?

П а н. А помніш, як мы цябе бізунамі сваталі?

Р а м а н. Як-жа мне ня помніць? Вось-жа я й кажу, што неразумны чалавек быў, ня ведаў, што горка, што соладка. Бізун горкі, а яго ляпей, як бабу, любіў. Вось дзякуй вам. міласьцівы пане, што навучылі мяне, дурня, мёд есьці!

П а н. Добра, добра! Затое й ты мне зрабі ласку: вось пойдзеш з даежджачымі на балото, настраляй чым болей птушак ды непраменна глухога цецярука дастань.

Р а м а н. А калі-ж гэта, пан, нас на балото пасылае?

П а н. Ды вось выпьем яшчэ, Апанас нам песьню пасьпявае ды й з Богам.

Р а м а н. Вось ужо гэта й трудна: час ня раньні, дый балото далёка, а да таго-ж яшчэ й вецер па лесе шуміць, на нач будзе бура. Як-жа ж цяпер гэткую асьцярожную птушку забіць?

I с л у г а. Раманава праўда...

II с л у г а. Хутка загудзе бура...

П а н (*стукнуўшы чаркай засярдаваўшы*). Ціха вы, чортавы дзеці!

А п а н а с. Апамятайся, міласьцівы пане! Дзе-ж гэта відана, каб на нач ды яшчэ ў буру людзей па цёмным лесе за птушкаю ганяць?

П а н. Ой Апанас, Апанас! Разумны ты хлопец, а таго мусі ня ведаеш, што між дзьвярэй ня трэба носу сунуць, каб як-нібудзь не зашчамілі... Вось лепш песьню нам засьпявай.

А п а н а с. Дзякую, пане, за навуку; вось-жа я табе за тое пасьпяваю, а ты слухай. (*Бярэ бандуру, кратае рукой струны і сьпявае*).

Ой, пане, ой, Іване!
Ой, пане, ой, Іване!
Ў небе каршун лятае,
Ён вароны забівае.

Х о р.

Ой, пане, ой, Іване!..
Ён вароны забівае.

А п а н а с.

А таго-ж наш пан ня знае,
Што на сьвеце так бывае:
Каля гнёздачка сваёга
І варона сілу мае.

Х о р.

Ой, пане, ой, Іване!
І варона сілу мае.

А п а н а с.

Не чапай, пане, чужога.
Ідзі лепш сваей дарогай.
Хоць каршун моц-сілу мае,
Дый варона забівае.

Х о р.

Хоць каршун моц-сілу мае,
Дый варона забівае.

А п а н а с.

Лес шуміць, гальлё трасецца,
Сэрцо каршуна ня бьецца,
Дождж сьлязьмі яго зьлівае,
Хаўтуры віхор спраўляе.

Х о р.

Дождж сьлязьмі яго зьлівае,
Хаўтуры віхор спраўляе.

А п а н а с.

У пакоях нехта плача,
Няма пана у палацы.
І ня ведама нікому,
Калі вернецца дадому.

Х о р.

І ня ведама нікому,
Калі вернецца дадому.

А п а н а с.

Плача пані, сьлёзы льюцца,
Грудзі ёй ад ўздохаў рвуцца.
Жонка верная ўсё плача,
А над трупам груган крача.

Х о р.

Жонка верная ўсё плача,
А над трупам груган крача.

П а н. Ну, годзе ўжо песьні! Гэй, зьбірайся, Раман! Хлопцы! сядайце на коні! І ты Апанас паедзеш з імі,—будзе ўжо тваё песьні слухаць! Добрая песьня ды толькі ніколі таго, што ў ёй сьпяваецца, на сьвеце ня бывае.

А п а н а с. Ох, пане, пане! У нас кажуць старые людзі: ў байцы праўда і ў песьні праўда. Толькі ў байцы праўда, як жалезо: доўга па сьвеце з рук у рукі хадзіло, заіржавело... А ў песьні праўда, як золато, што ніколі яго іржа ня есьць... Вось як кажуць старые людзі...

П а н (*махнуўшы рукой*). Ну, мо гэтак у вашай старане, а ў нас ня гэтак... Ідзі, ідзі, Апанас! Абрыдла мне цябе слухаць... (*Апанас выходзіць*).

### З Ь Я В А. VIII-я.

П а н, Р а м а н, Б а г д а н і с л у г і.

Б а г д а н. (*Уважна слухаў песьні, гледзячы спадлобу на Апанаса. Пасьля песьні ўпаў перад панам на калені*). Паслухай мяне, пане! Сядай на каня, едзь да свае пані: ў мяне сэрцо нядобрае чуе.

П а н. Ідзі й ты ад мяне прэч! Ты мусі, ня мужык, а баба. Ідзі ты ад мяне, а то каб як з табою ня было кепска. (*Да слуг*) А вы што сталі, хамаво племя? Ці я ня пан вам болей? Вось я вам такое пакажу, чаго й вашые бацькі ад маіх бацькоў ня бачылі!..

Б а г д а н. Табе. пане, мусі, вернага слугі ня трэба!.. (*Устае і адыходзіць з слугамі*).

### З Ь Я В А IX-я.

П а н і Р а м а н.

Р а м а н (*да вакна*). Аксана! прыгатуй пану пасьцель і хлопчыка пакладзі, час яму ўжо спаці. Я з панскімі даяжджачымі ў лес іду. (*Выходзіць*).

ЗЬЯВА X-я.
Пан, пасьля Аксана.

Пан (*сеў і крыху задумаўся; пасьля кліча*): Аксана!..

Аксана (*ўваходзіць*). Будзьце ласкавы, паночку, я вам ужо прыгатавала пасьцель.

Пан. Аксана! Хадзі сюды, бліжэй!

Аксана (*ціха баязьліва падыходзіць. Пан абыймае яе*).

Пан. Чаго-ж так спалохалася? Быццам першы раз... Ужо-ж не першыня... Ну, пацалуй мяне, Аксаначка!

Аксана (*падае на калені*). Паночку! Пашкадуй мяне! Не пагань мяне жонку мужаву. Зьлітуйся нада мной!.. О, бедная-ж мая галованька!..

Пан. Вось, дурная! пачала галасіць. Ціха! Хадзі! Гарэлкі хочаш? Гарэлкі дам, тады плакаць ня будзеш,—вясёлай станеш... Хадзі! (*Цягне яе ў камору*).

Аксана. Ой, ліханько мне! Што-ж я цяпер зраблю. (*Выходзяць*).

Заслона.
(*Канец будзе*).



*Рыс. Драздовіч.*

# Песьні на ваяцкі лад.

(Паводле народн. мэлёдыяў).

*Перадрук забараняецца.*

**Габруся ў жаўнерку ўзялі...**

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Зажурыўся стары татка,
Цяжка стогне, плача матка.
Ой, Габруська! ой, Габруська!

Ня журбуйце, тата, маці!
Я ўсядзець ня мог у хаце,
Сам пайшоў па добрай волі
Паспытаць ваеннай долі
Ня журбуйце, ня журбуйце!

Сваякі—ўсе і суседзі—
Ніхто дома з іх ня ўседзеў,
Выйшлі ўсе з аднэю радай—
Бараніцца ад нападу.
Бараніцца, бараніцца!

Мучыць вораг нас заўзяты:
Папаліў нам нашы хаты,
Патаптаў нам наша поле,
Пакараў людцоў няволяй.
Мучыць вораг, мучыць вораг!

І мы ў шапку спаць ня будзем,
І пакажам сьвету, людзям,
Як баронім межы родны
Ад напасьці, ад нягоднай.
Як баронім, як баронім!

Ня журбуйце-ж, тата, маці!
Буду вас яшчэ вітаці,
Як з вайны здароў вярнуся
І вам нізка пакланюся.
Ня журбуйце, ня журбуйце!

А як згіну, то зязюля
Прыляціць да вас адтуля
І ля вокнаў, ля хаціны
Закукуе, што я згінуў.
Закукуе, закукуе!

**Янка Купала.**

## Першае Т-во Беларускай Драмы і Камэдыі.

У тэатральным жыцьці Менску бязумоўна паважную ролю адыграло Першае Т-во Драмы і Камэдыі. Гісторыя заснаваньня Т-ва гэтакая: 1-га мая 1917 г. ў Менску адбыўся сход беларускіх працаўнікоў сцэны з усходняй Беларусі (заходняя тагды стагнала пад нямецкай окупацыяй і зносін з ёю ніякіх ня было). На сходзе гэтым між інш. былі: І. Буйніцкі, Ф. Ждановіч і У. Фальскі. Пастаноўлено з'арганізаваць з аматорскіх сіл драматычны гурток, котораму дано вышэйпамянутае найменьне.

Не абмяжоўваючыся спэктаклямі ў Менску, Т-во ўжо ў першые часіны свайго істнаваньня арганізуе выезды на провінцыю. Гэтак, 7 мая трупа выяжджае у Слуцак, 23 мая ў Бабруйск, 8 чэрвеня ў Магілёў... Ня гледзячы на матэрыяльные страты (усе тры выезды на провінцыю далі дэфіцыт), сябры Т-ва ня трацяць ахвоты да працы і пачынаюць наладжаваць новые спэктаклі ў Менску.

Асабліва важную працу зрабіло Т-во ў часе Ўсебеларускага Зьезду сваімі спэктаклямі ў Гарадзкім тэатры, на якіх бывала поўна публікі, галоўным чынам прыехаўшых на зьезд у Менск беларускіх сялян, паміж якімі было шмат людзей, першы раз у сваім жыцьці бачыўшых родны тэатр.

У маі 1918 г. Т-во на нейкі час спыняе сваю працу. Тагочасны Народны Сэкрэтарыят утварыў г. зван. „Беларускі *Дзяржаўны* Тэатр“, у які ўвайшлі ўсе сябры Т-ва разам з сваім рэжысэрам Фл. Ждановічам. Жыцьцё „Дзяржаўнага Тэатру“ было нядоўгае і Т-во ўзноў пачынае працаваць на старых варунках, наладжваючы спэктаклі ў „Беларускай Хатцы“ і ў ж.-д. клюбе. У гэтым самым часе паўстаў у Менску другі тэатр—„Беларускі Народны Тэатр“ пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча, каторага спэктаклі (так сама ў „Беларускай Хатцы“) былі паважнай конкурэнцыяй для Т-ва Драмы і Камэдыі. Т-во ўзноў пачынае наладжваць выезды на провінцыю, маючы гэтым разам матэрыяльную ўдачу.

Пасьля прыходу бальшавікоў т-во мяняе сваю працу, уліваючыся ў арганізованы бальшавікамі „Беларускі Савецкі Тэатр.“ Жыцьцё гэтага тэатру, так сама як калісь „Дзяржаўнага“, было нядоўгае. Пасьля прыйшлі часы, калі трудна было думаць аб якой-нібудзь культурнай працы, жывучы пад чырвоным тэрорам і бяз хлеба. Праца т-ва надоўга спыняецца і—толькі 22 сьнежня мінулага году мы ізноў бачым у Менску афішу „Першага Таварыства Драмы і Камэдыі.“

Але ад новага году пачынае іграць „Беларускі тэатр“ пад дырэкцыяй Ф. Аляхновіча. Лепшые сілы Т-ва ўвайшлі у гэты новы тэатр і гэткім чынам Т-во яшчэ раз прымушано было спыніць сваю працу.

Дырэкцыя Аляхновіча ўжо кончылася ў мінулым месяцы. Мы чулі, што Т-во маніцца ізноў уваскрэснуць да жыцьця.

Зрабіўшы гэты кароткі нарыс працы Т-ва, мы, прызнаючы Т-ву многа заслугі для справы беларускага тэатру, хочам адначасна ад'значыць, што трацiць сілы на тое, каб ажывіць сыграўшае ўжо сваю ролю і памалу памёршае ціхай смерцьцю Т-во,—лічым лішнім. Кожны, які будзе арганізавацца беларускі тэатр, будзе заўсёды ўлаліваць лепшые сцэнічные сілы ў Менску, гэтакім способам разьбіваючы працу Т-ва, як гэта ўжо ня раз было. Калі-ж бы навет праз нейкі час і ня было ў Менску сапраўднага тэатру, дык ёсьць ужо ў нас „Т-во працаўнікоў мастацтва“, якое мае зусім такіе самые мэты, як і „Т-во Драмы і Камэдыі“. Істнаваньне двох аднолькавых таварыстваў лічым непатрэбным разьбіваньнем нашых мастацкіх сіл, каторые, на наш погляд, павінны гуртавацца ў аднэй спайнай установе, згодна працуючы з усей энэргіяй дзеля вялікай справы — адраджэньня роднага *мастацтва*.

**Ф. А.**

---

*Гэрдэр.*

## Штукарство мовы і краснамоўство.

Так сама, як дар мовы розьніць чалавека ад жывёлы, істнуе штукарство мовы, што між людзьмі робіць, бадай, гэтакую самую розьніцу, як мова між зьверам і чалавекам. Дзеля гэтага адным з галоўных заданьняў школы павінна быць разьвіцьцё штукарства мовы ў маладым пакаленьні.

Якім-жа способам гэта найлепей дасягаецца? Дзеля гэтага шмат патрэбна чыньнікаў, галоўные з іх: слуханьне, чытаньне, завучэньне напамяць, пісаньне і стычнасьць з людзьмі, што добра ведаюць мову.

1. Толькі праз слых мы навучаемся гаварыць. З гэтай прычыны мусім чуць, уважна прыслухоўвацца і памятаць, як гавораць людзі, мова якіх ёсьць чыстая, выразьлівая, разумная і прыемная. Паводле гэтакіх узораў, мы самі павінны тварыць уласную мову.

2. Каб разьвіць мову адным з найлепшых способаў ёсьць чытаньне, аднак-жа чытаньне сьвядомае і з пачучьцём—чытаньне ў голас найлепшых твораў усялякага зьместу. Байкі, казкі, повесьці, гісторыі, размовы, монолёгі, вершы, камэдыі і трагэдыі, ўсё гэта добра чытаць у прысутнасьці іншых або яшчэ ляпей—з іншымі асобамі, не саромячыся як можна прасьцей, натуральней. Гэта прыдасьць ня толькі мове, але і душы разнастайнасьць форм і жвавасьць. Пачынаючы з байкі ці казкі усё, што з розных гатункаў поэзыі істнуе ў нашай мове найлепшае павінна чытацца ў кожнай, добра наладжанай, школе ўва ўсіх яе клясах.

3. Завучаваньне і свабоднае чытаньне, іначай дэклямацыя падобных узораў ёсьць канечным, бо аднаго чытаньня ня хопіць; толькі добра разумеючы зьмест душой, робячы яго ўнутрана свaей уласнасьцю, мы можам добра і адпаведна дэклямаваць. Чытаньне голасна і дэклямацыя ня толькі ўносіць у мову формы, а й ідэі: яно ўзбуджае ўласные думкі, для душы прыносіць радасьць, выабражэньню і духу (розуму) яду, ў сэрцы жывіць вялікіе пачуцьці і навет творыць нацыянальны характар.

4. Пісаньне пачынаецца з сьпісваньня гэтых узораў. Каб правідлова гаварыць, каб правідлова чытаць і правідлова выражаць уласные думкі, трэба набыць навык у пісаньні. Дзеля гэтага, паводле добрых прыкладаў, можна пісаць

кароткіе ўклады, потым выняткі з кніжкаў, часткамі, або паводле цэлага пляну кнігі. Гэта ячэйкі, якіе будуе пчолка, гранкі, куды яна складае мёд. Няхай жа чалавек, пакуль малады, не змарнуе ані адзінага дня бяз пісаньня; хай запісвае ўсё, што яго цікавіць у кніжцы ці ў размове, альбо уласные думкі; хай прывыкае выбіраць рэчы, якіе чытае. Пісаньне навастрае розум, папраўляючы мову, разьвівае думкі і мае дзіўны уплыў на чынасьць душы.

Гэтак у школе, як на таку зярнё павінна адддзяляцца ад мякіны; вучні павінны чытаць, сьпісаваць, вучыцца напамяць найлепшые творы; апошніе павінны стацца правілам для моладзі, павінны пушчаць карані ў іх сэрцы і душы. Вось школа, дзе вырабляецца мова чалавека! Гэтай школай ня ганьбілі найвялікшые, найпаважнейшые людзі ў Грэцыі і Рыме: не саромеліся яны аж да старасьці працаваць над школай мовы, і хто гэтага не рабіў, таго яны лічылі як барбара. Усе вялікіе прамоўцы хвалілі гэты спосаб удасканаляньня чалавечай мовы, самі даючы і рады і правілы. Як пільна яны чыталі, сьпісвалі і завучалі творы сваіх пісьменьнікаў, робячы іх сваей духоўнай уласнасьцю, ў нашых часох здаецца нібы казкай. Але толькі гэтай дарогай яны сталі адукованымі нацыямі, самі-ж яны адукацыю сваю прыпісавалі разьвіцьцю мовы і краснамоўства. Найлепшые з іх, пісьменьнікаў, у штукарстве мовы стаяць так высока, што дагэтуль служаць узорамі мовы навет у вышэйшых навуковых школах Заходу.

5. Стычнасьць з іншымі людзьмі ёсьць абавязковай дзеля разьвіцьця мовы, бо мова паўстала спосабам стычнасьці і дагэтуль кожнае выражэньне яе толькі ў таварыстве з іншымі людзьмі абточваецца і паліруецца. Хоць чытаньне добрых твораў так сама ёсьць стычнасьцю з іх аўторамі, аднак заменіць стычнасьці з жывымі людзьмі і вуснае размовы, чытаньне ня можа. У абходзе з людзьмі важна сачыць ня толькі за ўласнай мовай, але і мовай іншых. Карысным-бы для маладых людзей было, каб яны умовіліся між сабой адзін другому рабіць увагі, калі хто з іх робіць памылкі, ужывае дрэнные словы, абмылковые выразы,—гэта-б ім памагло папраўляць і палепшыць мову. Аднак, у кожным разе, чалавек сам павінен быць уласным сваім сторажам і пільнаваць, каб усё, што ён хоча казаць, было апранута ў форму зразумелую, ясную, выразную, дарэчную і прыемную. Калі ён хоча, або мусіць разказваць, няхай разказвае складна і міла, просьбу ці прапазыцыю, хай выражае скромна, але з дастойнасьцю, і навет прыкрые рэчы-увагі, вымоўкі—трэба і можна казаць бяз гняўлівасьці, грубасьці, спакойна, паважна, энэргічна але далікатна.

Гэтак у стычнасьці з людзьмі мусім пільнаваць думкі і словы свае; нязначна гэта праводзіць да правільнасьці, павагі, сьцісласьці прыемнасьці і далікатнасьці выразаў. Найпякнейшым довадам добрай адукацыі ёсьці мова чыстая, цэльная, сьціслая, далікатная, здольнасьць цікавіць сваіх слухачоў і дарэчна закончыць прыгожасьць і яснасьць мовы ня раз у жыцьці служыць найлепшай рэкомэндацыяй.

*З нямецкай мовы на беларускую пераложыла*
**Аўгуста Рэзэнбэрг.**



Ф. Чарнышэвіч, Максім Гарэцкі і Лявон Гмырак.

**Ф. Чарнышэвіч.** Поэта родам з Капыля. Яго вершы друкаваліся ў „Нашай Ніве,“ „Маладой Беларусі“ і „Вольнай Беларусі.“ У яго творах ёсьць пекные малюнкі прыроды і шчырасьць пачуцьця. Між іншым, ён пераложыў на беларускую мову „Кацярыну“ Т. Шэўчэнкі, якая вышла ў 1910 г. ў Вільні асобнай кніжкай.

**Максім Гарэцкі.** Беларускі пісьменьнік. Піша публіцыстыку і апавяданьні. Вельмі пладавіты. Да гэтага часу ўжо вышлі з друку некалькі яго зборнікаў: „Рунь,“ „Антон,“ „Беларуска-Маскоўскі слоўнік,“ „Дзьве душы.“ Цяпер ён рыхтуе да друку „Гісторыю беларускае літаратуры“.

У яго апавяданьнях чуецца кемны псіхолёгічны разбор гэрояў і красачнасьць стылю. Ва ўсіх яго творах малюецца глыб і размаітасьць „родных карэньняў“ беларускай душы, якая запалонена чарамі містыкі старадаўніх часоў паганшчыны з налётам сучаснасьці. Яны ступлены кволым вэлюмам шчырага романтыка. Гарэцкі—родам з Мсьціслаўшчыны, Магілёўскай губ.

**Лявон Гмырак. (Л. Баброўіч).** Ён родам з пад Буцлава, Вілейскага павету. Пісаў публіцыстычные і крытычные стацьці ў „Нашай Ніве,“ таксама і апавяданьні. У сваіх творах заўсёды абстаіваў правы беларускага селяніна. Ён быў вельмі шчыры беларус і вялікі ідэалісты ў жыцьці. У 1915 г. забіты у Ковенскіх бітвах, маючы каля 24-х гадоў.

## Бібліяграфія.

**Антон. (Абразы жыцьця).**

**Максіма Гарэцкага.**

У чатырнаццацёх абразох аўтор малюе перад намі жыцьцё Беларусі з усіх бакоў.

Тут і жыцьце у панскіх пакоях з яго дастаткам, але і з яго заўсёднай нудою (абраз. 1). Тут і багаты гандляр лесам, які мае шмат дзесяцін лесу і, тым ня менш, гарэлкаю спакушае панскага лясьніка прадаць яму некалькі дубкоў з панскага лесу (абраз. 2). Тут і набажэнство у цэркві з панам, просячым у Бога сабе веры, і з народам, які-то шчыра моліцца, (Антон) то ідзець у цэркву, каб пабачыцца з каханымі асобамі (моладзь), (абраз. 3). Абраз 4 знаёміць нас з душою Антона, шукаючага адказаў на свае пытаньні. Абраз 5 малюе нам лясьніка Аўтуха пьяніцу, каторы гойшыць сваю гаспадарку, абкрадвае пана і, тым ня менш, лічыць сябе разумнейшым і лепшым за другіх аднасяльчан. Абраз 6 малюе касавіцу на вузкіх сялянскіх шнурох, з перакосамі і сваркамі з-за гэтага. Абраз 7 выводзіць сьляпых старцаў, поячых гарэлкаю Аўтуха, каб ён аддаў ім у павадыры свайго унука, сына Антонавага. Іваньку, і сварку з-за гэтага паміж бацькамі Іванькі і яго дзедам. Абраз 8 малюе нам кашмарны сон Антона, катораму здаецца што яго сын Іванька павадыром у сьляпых старцаў, якіе і яго робяць сьляпым. Абраз 9 дае нам жудасны абраз таго, як Антон у лесе касою зарэзаў Іваньку, а затым і сябе. У 10 абразе малюецца ігрышчо у лесе, якое перарвалося весткаю аб тым, што у лесе зарэзаны двое людзей. У 11 абразе даюцца беларускіе прычытаньні Домны над сынам і перасуды суседзяў над нябошчыкамі. Перад намі у 12 абразку намалеваны горад з яго шумнымі вуліцамі, з кавярняю і яе заўсёднымі гасьцьмі, гуляючымі дзяўчатамі, ахвіцэрамі, зьвезданосцамі, тоўстымі зубрамі і публіцыстамі. Абраз 13 малюе нам дзеда Аўтуха, які страціўшы службу і запрадаўшы гаспадарку, бадзяецца з унучкаю далека ад свае вёскі, і перад прыдарожным крыжам моліцца за душы зарэзаных сына і унука. 14-ы абраз знаёміць нас з псыхіятрычнаю бальніцай, з звар'яцеўшаю Домнаю, жонкаю Антона, і з паглядамі доктара на душэўные хваробы.

Абразы, намалеваные у Антоне больш, чым рэальные. Яны малююць перад намі сапраўднасьць рэзка да болі. Беларуская прырода і быт тут намалеваны так ясна, што можна спадзявацца знойдзецца мастак, каторы перанясе іх на палатно.

З людзкіх тыпаў ярка намалеваны Антон, каторага, дзеля яго удумчывасьці і добрасьці, прымаюць ледзьве не за дурня, і яго бацька, пьяніца Аўтух.

Што тычыцца разьвіцьця самай дзеі, то ня зусім зразумела, чаму Антон зарэзаў ня толькі сябе, але і сына Іваньку. Праўда, Антон чуў у казаньні, што грэх пьянства трывае на патомсьцьве да 7-га пакаленьня, жыў ён бедна і часта жадаў сабе сьмерці, Аўтух хацеў аддаць яго сына у павадыры да сьляпых старцаў, і Антон бачыў у кашмарным сьне свайго сына павадыром старцаў і як яны хацелі яго асьляпіць, але усё гэта не давало вам поваду дагадацца, што ён, такі ціхі і добры, зарэжа ня толькі сябе, але і нявіннага сына. І толькі пасьле таго надворнага факту, калі Антон у сьвято пачаў гастрыць касу, а сабака стаў выць, вы дагадаліся, што чакаецца нешто нядобрае. Усё-ж такі вы думалі, што ён толькі на сябе наложыць рукі. Можна думаць, што кашмар найбольш пабудзіў Антона да жудаснага учынку.

**А. Данілевіч.**

Падпісчыкам „Беларускага жыцьця“ будзе дасылацца „Рунь“.

*Рэдактар—ЯНКА ЛУЦЭВІЧ.*

*Выдавец—ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ.*

### Ад Рэдакцыі „Рунь.“

*Рэдакцыя „**Руні**“ шчыра просіць сваіх чытачоў і прыхільнікаў прысылаць ей фотографіі і рысункі беларускіх тыпаў, весак, двароў, замчышчаў, мястэчак, гарадоў, гістарычных памятнікаў, а так сама—фотографіі беларускіх нацыянальных гурткоў, сходак, кірмашоў, аматорскіх беларускіх тэатраў і г. д. Кожная фотографія ці рысунак павінны мець апісаньне: дзе калі і кім зроблены (ці сабраны), а так-сама назву мясцовасьці і тыпаў (якой губэрні, павету, воласьці).*

*Усе прысыланае, па надрукаваньні у „**Руні**“, будзе з вялікай падзякай зьвернуто уласьнікам.*

### Ад Адміністрацыі „Рунь“.

*Падпісчыкам „Беларускага Жыцьця“, якіе адтрымлівалі яго напавер, або—якім зышоў тэрмін падпіскі, з гэтага нумару болей „**Рунь**“ высылацца ня будзе. Дзеля гэтага просімо пасьпяшыць з падпіскай, каб ня было перарыву у высылцы „**Руні**.“*



6 дазв. вайсков. цэнзуры 9/5 1920 г.
ш

Менск. Друкарня Інвалідаў. Зак. № 83.